*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 30(415)** **28 ЛІПЕНЯ 1999 г.**

# 27 ліпеня

## 9-я ўгодкі прыняцце Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь-аб'яўленне незалежнасці Рэспублікі Беларусь

### Незалежнасць

Светлы дзень, светлы час. Незалежнасць
Лашчыць сэрцы, і душы, і лёс.
Светлы дзень, светлы час. Непазбежнасць
Нашай волі ідзе ад нябёс.

Мы акрылены вечнай надзеяй,
Нашых мараў штандары шумяць,
Нашых мрояў заранка ірдзее,
Нашых думак канём не дагнаць.

Мы паходняй святой непакоры
Разганяем бязвольнасці цвіль,
Мы ідзём на свабоды прасторы,
Мы выходзім са змроку магіл.

А навокал ваўкі з крумкачамі
Шчэрацъ зяпы на нашу зямлю,
Мой народ, ты з пустымі рукамі
Не адстоіш свабоду сваю.

Ты адкрытай мазольнай далонню
Мусіш толькі даваць і даваць,
Талент, хлеб і дзяцей у прадонне,
Унахабную прорву кідаць.

Дык пастаў ты далонь тую рубам,
А шчэ лепей зацісні ў кулак,
Скрыгатні хоць затворам, хоць зубам
І прыпомні, што ты быў вояк.

Ад твае ваяўнічае славы
Шмат дрыжалі і Захад і Ўсход.
Ты нашчадак вялікай дзяржавы,
Мой забіты, гаротны народ.

Мы сыны твайго вечнага болю,
Мы паўсталі ў апошні мо раз,
Мы заплацім за волю сабою,
Ты вазьмі, ты вазьмі толькі нас,

Ты вазьмі нашу смеласць і сілу,
Нашай кроўю свой сцяг акрапі,
І хай нашыя будуць магілы
Для цябе, як памежжа слупы,

Каб ніколі, ніколі, ніколі
Ты не мог больш назад адысці
Са святое дарогі да волі,
З найцяжэйшай дарогі ў жыцці.

25.10.1991 г. *Станіслаў Суднік.*

### Віншуем!

Шырокавядомаму, асабліва ў дэмакратычных колах, дзеячу беларускай песеннай культуры Алесю Галічу спаўняецца 30 гадоў.

Ужо працяглы час яго культурна-асветніцкая дзейнасць прыносіць плён, раскрываючы людзям Беларусі, асабліва моладзі, бязмежныя багацці, глыбокую духоўнасць і непаўторную прыгажосць беларускай песні.

Прычым, ён сам—выдатны выканаўца лірычных, патрыятычных і іншых песень. Яго прыгожы, гучны голас яскрава даносіць да кожнага слухача і змест і мелодыю, абуджаючы гонар і пачуццё самапавагі кожнага беларуса.

Нястомная дзейнасць са школьнымі гурткамі, актыўны ўдзел у занятках-сустрэчах са студэнтамі ВНУ, вучэльняў, школьнікамі, якія ладзіць Рада ТБМ Кастрычніцкага раёна, кіраванне хорам БНФ – гэта толькі частка дзейнасці спадара Алеся.

Ад усёй душы зычым нашаму шаноўнаму спадару Алесю Галічу моцнага здароўя, творчага натхнення і поспехаў у святой справе адраджэння і вызвалення Маці-Беларусі.

Шануй цябе Бог.

Па даручэнні Рады ТБМ Кастрычніцкага раёна Ян Грыб
11.07.99г.

### Аўтару слоўніка мовы Скарыны - 75

20 ліпеня споўнілася 75 гадоў вядомаму мовазнаўцу, заслужанаму дзеячу навукі, доктару філалагічных навук Уладзіміру Анічэнку. Уладзімір Анічэнка ў 1988 годзе правёў комплекс даследчыцкіх прац "Скарыніяна", за што атрымаў дзяржаўную прэмію БССР. Ён вёў глыбінныя даследванні ўсходнеславянскіх моў, выдаў многа прац па гэтай тэматыцы. Адна з асноўных яго работ - трохтомавы "Слоўнік мовы Скарыны". Пад яго кіраўніцтвам і пры непасрэдным удзеле падрыхтаваны "Слоўнік мовы Янкі Купалы". Выдаў рукапісы помніка старажытнай беларускай пісьменнасці "Александрыя" і зборнік 19-га стагоддзя "Беларускі казачны эпас".

Сакратарыят ТБМ сардэчна віншуе Уладзіміра Васільевіча з юбілеем, зычыць здароўя і просіць яшчэ паслужыць Беларусі.

### Шаноўныя беларусы Мельбурна!

Сакратарыят Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны і рэдакцыя газеты "Наша слова" ад усёй душы вітаюць вас у далёкай Аўстраліі.

Прыміце нашую шчырую ўдзячнасць за тыя 170 амерыканскіх даляраў, якія вы даслалі на газету "Наша слова". За гэтыя грошы быў аплочаны друк трох нумароў нашай газеты. Нам вельмі прыемна, што недзе за тысячы кіламетраў жывуць шчырыя беларусы, што там б'юцца беларускія сэрцы за нашую агульную Бацькаўшчыну, за нашую справядлівую беларускую справу. У свой час вы паклалі свае лёсы, жыцці, здароўе за вольную Беларусь. Вас не зламалі дзесяцігоддзі змагання. Вы не страцілі надзеі. І сёння ў наш цяжкі час, калі маскоўскі хамут зноў пхаюць на шыю рахманаму беларускаму каню, вы прадаўжаеце падтрымліваць адраджэнцкія сілы, робіце важкі ўнёсак у нашую непазбежную перамогу. Шчыры вам "дзякуй".

Мы ад усёй душы зычым вам плёну ў працы на карысць Беларусі, каб у многіх пакаленнях беларусы Аўстраліі засталіся беларусамі і вернымі сынамі сваёй гістарычнай Радзімы.

Старшыня Рэспубліканскай Рады ТБМ імя Францішка Скарыны
Алег Трусаў.
Рэдактар газеты "Наша слова"
Станіслаў Суднік.

## *Беларускія СМІ пра беларускую мову*

*ЗАХІНЕМ ПІКЕТАМ МОВУ*

***На мінулым тыдні Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны зладзіла свой чарговы пікет – толькі якая карысць з гэткіх пікетаў?***

***Мова наша жыве, не пакінутая, сям-там: у вёсцы, сярод малапісьменных людзей, не навучаных праз гэта расейскай, і ў гарадзкіх нацыянальна-сьведамых асяродках. Але ні тым, ні тым дзейнасць ТБМ нічога не дае.***

***Калі няма магчымасьці вучыць людзей гаварыць па-беларуску, дык трэба стварыць узор гэткага "размаўленьня". Найперш – колькі ўжо пра гэта ішлося! – самыя актывісты нежалежніцкага руху мусяць размаўляць па-беларуску ня толькі " па працы", а паўсюль. А зайдзіце ў сядзібу ТБМ, з вамі павітаюцца "Здраствуйце!" – і запытаюцца: "Вы к каму?"***

***Да пікетаў прыходзяць людзі – з надзеяй, што нешта зьменіцца, што нешта можна зьмяніць. А ім падсоўваюць газэту "Наша слова": справаздачы, заявы, і скаргі, і ўсё – дубовай мовай. Ну, не чыталі ў ТБМ клясыка: "Кінь вечны плач свой аб старонцы!"***

***В.М.***
***"Наша Ніва" № 13, 5 ліпеня 1999 г.***

---

Нядаўна ў газеце "Наша Ніва" быў надрукаваны артыкул невядомага аўтара ў якім зняважаецца як ТБМ цалкам так і наша газета.

На апошнім Сакратарыяце гэты матэрыял быў разгледжаны і мы даручылі нашаму адказнаму сакратару сп.Ірыне Марачкінай напісаць адказ у "НН" ад імя Сакратарыята. што і было зроблена.

У апошнім нумары "НН" гэты адказ у значна зменены варыянце быў надрукаваны. Таму мы друкуем у "НС" абодва матэрыялы без усялякіх скарачэнняў. Хай нашы чытачы самі ва ўсім разбяруцца, бо мы выступаем рашуча супраць нацкоўвання адных беларускамоўных выданняў на другія.

Для рэдакцыі "НН" мы асобна павядамляем, што ў нашай сядзібе захоўваецца транспарант наступнага зместу "Рукі прэч ад Нашай Нівы", з якім сябры ТБМ не адзін раз стаялі на сваіх пікетах, калі газеце пагражала закрыццё.

Мы можам падараваць яго на добры ўспамін невядомаму аўтару "НН", які схаваўся пад літарамі "В.М."

**Алег Трусаў старшыня ТБМ імя Ф.Скарыны.**
**Менск, 21 ліпеня 1999г.**

## Захінем пікетам мову. А чаму б і не?

У "Нашай Ніве" (№ 13, 5 ліпеня 1999 года) быў змешчаны ліст пад назвай "Захінем пікетам мову". Аўтар гэтага ліста, схаваўшыся за ініцыяламі В.М., спрабуе давесці чытачам, што "дзейнасць ТБМ нічога не дае". У прыватнасці, ён не прымае такой пашыранай ва ўсім свеце формы пратэсту, як пікетаванне. "Якая карысць з гэтых пікетаў?" пытаецца аўтар. Мы не збіраемся некага пераконваць, нешта даказваць ці палемізаваць з гэтай нагоды. Вынікі нашых пікетаў – відавочныя.

Поўнасцю прымаем крытыку аўтара ліста ў адрас газеты "Наша слова". Для нас, сяброў ТБМ, гэта сапраўды балючае месца. І тут шаноўны аўтар В.М. трапіў у дзесятку, "укусіў", што называецца, за жывое. На нашу думку, "Наша слова" з'яўляецца своеасаблівым люстэркам, у якім, як нідзе, адбіваецца сённяшні дзень нашай краіны. Гэта, калі хочаце, вобраз самога беларуса, які прагне выжыць у вар'яцкай сітуацыі. Але, зразумейце, без газеты Таварыства працаваць не можа. Нават, калі б на яе старонках, як сцвярджае В.М., знаходзіліся адно толькі "справаздачы, заявы і скаргі", напісаныя "дубовай мовай", яна нам неабходна. Таму крытычная заўвага аўтара ліста наконт "Нашага слова" – не навіна для нас. Мы разумеем, што калі б нехта, напрыклад, такі прафесійны публіцыст, як Сяргей Дубавец, узяўся прааналізаваць любы нумар нашага друкаванага органа, то ад яго жывога месца не засталося б – адны руіны. Дзякуй Богу, прыкладна 99,9 адсоткаў прыхільнікаў разам з намі церпяць гэты боль і, як могуць, дапамагаюць. Ад гэтага, нам здаецца, больш карысці. Зменіцца сітуацыя, скончыцца жабрацкае існаванне і "Наша слова" – мы ўпэўнены у гэтым – будзе, павінна быць (!) узорам мовы. У лісце "Захінем пікетам мову" ёсць і звычайныя бабскія плёткі наконт таго, што ў сядзібе Таварыства не чуваць беларускай мовы. Тут нават павітацца па-беларуску не ўмеюць.

Аднак, мы адчуваем, што аўтар ліста, як дарэчы, і "Наша Ніва", — наш прыхільнік, і, якой бы жорсткай з яго боку не была крытыка ў наш адрас, ён аб'ектыўна з'яўляецца прапагандыстам ТБМ.

Дарэчы, праца нашага Таварыства была заўважана нават афіцыйнымі СМІ. Нядаўна на Беларускім тэлебачанні ў "Палітычных дыялогах" вядучы ў гутарцы з міністрам асветы Васілём Стражавым не прамінуў пытання актывізацыі дзейнасці ТБМ і, шукаючы адказ на яго, выказаў меркаванне, ці не звязана гэта з 75-годдзем пачатку палітыкі беларусізацыі, датай, якую б мы маглі б абмінуць у мітусні будзённых спраў, асабліва цяпер, падчас кампаніі перарэгістрацыі.

Пра нас пішуць і іншыя газеты: "Народная воля", "Навіны", "Беларуская маладзёжная", "Пагоня", некаторыя дзяржаўныя. Думаецца, што гэта справядліва, бо мы не стаім на месцы, працуем, абуджаем людзей, каб яны, нарэшце, задумаліся пра моўную палітыку дзяржавы, якая, фактычна руйнуе нашую культуру, незалежнасць, Бацькаўшчыну.

Ліст "Захінем пікетам мову" абмяркоўваўся на Сакратарыяце ТБМ. Ён выклікаў розныя, часам супярэчлівыя меркаванні, некаторыя з якіх знайшлі сваё адлюстраванне ў гэтым адказе.

Напрыканцы дазволім сабе выказаць суб'ектыўнае меркаванне. На наш погляд у дэмакратычным друку не павінна быць публікацый, у якіх людзі займаюцца самаедствам. Гэта не ўпрыгожвае. Верым, што "Наша Ніва" і надалей не згубіць свайго статуса першай беларускай газеты. Ганарымся, што мы, як кажуць, у адной звязцы – помніца, стаялі ў пікеце за "Нашу Ніву", баранілі тарашкевіцу, жылі разам на адной кватэры і да гэтага часу – у адной сям'і, якой з'яўляецца для нас Таварыства беларускай мовы.

*Ірына Марачкіна, адказны сакратар ТБМ.*
*Па даручэнні Сакратарыята*
*15.07.1999г.*





# Як русіфікавалі Афганістан

***"Навука расейскай мовы - гэта справа паважная. Вучань, які ведае яе, будзе здольны прачытаць карысныя матэрыялы па-расейску. Моладзь наблізіцца, дзякуючы гэтаму, да брацкага нам Савецкага Саюза", - заклікаў у 1980 годзе Першы кангрэс настаўнікаў Афганістана, які быў скліканы праз два гады пасля камуністычнага перавароту.***

Перад красавіком 1978 года ў Афганістане было каля 50 моў, якімі карысталася блізка сямі мільёнаў народаў розных лінгвістычных групаў. Афіцыяльнай мовай была мова пушту, на якой гаварылі плямёны пушту, што кіравалі на працягу 18 стагоддзяў . Разам з ёй распаўсюджана была, мова дары, што мае дзвюхтысячагадовую гісторыю і якую вучоныя адносяць да мадыфікацыі персідскіх. Пушту не дамінавала над дары ані па колькасці тых, хто гаворыць і піша, ані фармальна. Аднак, сталася так, што яна стала мовай кіраўнічых этнічна-племянных эліт, мовай вайсковых камандаў і афіцыйных дакументаў. Прадстаўнікі меншых народаў, у сваю чаргу, вучыліся пісаць і чытаць на дары, бо лічылі гэтую мову больш універсальнай і багатай. Некаторыя прыраўноўвалі мову пушту да рыкання асла.

### *Забракаваная мова*

Калі масквоўскія эліты вырашылі захапіць Афганістан, яны добра ведалі аб антаганізмах паміж уладарамі краіны - народам пушту і рэштай шматмільённай дзяржавы - таджыкамі, узбекамі, хазарамі, туркменамі, нурыстанцамі і шматлікімі іншымі. Забіўшы рукамі замахоўцаў прэзідэнта, які адначасова быў пуштунскім князем, Мухаммада Дауда, Крэмль не адразу пачаў праводзіць антыпуштунскую палітыку. Першым марыянетачным прэзідэнтам Дэмакратычнай Рэспублікі Афганістан стаў адзін з прадстаўнікоў пушту - Нур Мухаммад Таракі. Наступны - забойца Таракі - Хафізула Амін - таксама быў з пушту. Калі і гэты згінуў ад куляў савецкіх ахоўнікаў, яго крэсла заняў прэзідэнт Бабрак Кармаль які аказаўся настаўленым супраць пушту. Яго маці была таджычкай. Пачалося паступовае знішчэнне мовы пушту. Бабрак ніколі не размаўляў на пушту, таксама як і Наджыбула, які змяніў Кармаля і дачакаўся адыходу расейцаў.

### *Гульня на этнічных пачуццях*

Афганскія камуністы, падобна як і іх расейскія падтрымоўцы абвясцілі поўную роўнасць усіх этнічных групаў Афганістана, але выразна вылучалі тых, хто гаварыў на мове „дары". На самой справе, аднак, як можна прачытаць у апублікаванай у Англіі працы іраністкі Яўгеніі Пструсінскай, мэты моўнай палітыкі Крамля былі значна больш далёкімі, чым гэта выглядала на першы позірк. У школьных праграмах была разбудавана канцэпцыя вывучэння лакальных моваў, што дапамагала разбіваць лінгвістычна і да гэтага часу падзеленую шматэтнічную краіну. Напрыклад, ствараліся зусім новыя мовы, для якіх выпрацоўваўся новы алфавіт. Ужо не толькі пушту страціла права лічыцца надэтнічнай мовай, але і дары была зраўняная з іншымі мовамі. Плануючы дэзінтэграцыю Дэмакратычнай Рэспублікі Афганістан, разлічвалася на стварэнне лінгвістычнай супольнасці, якая магла б аб'яднаць таджыкаў, узбекаў і туркменаў, якія жывуць на поўнач ад Гіндукушу з народамі савецкіх рэспублік з-за Аму-Дар'і. Падтымлівалася „наднацыянальная інтэграцыя" багатага, напоўненага прыродным газам паўночнага Афганістана з савецкім Узбекістанам і Таджыкістанам. Адначасова абмяжоўваліся кантакты паміж афганскімі і „савецкімі" узбекамі, якія маглі б разам узгадваць калішнюю легендарную мінуўшчыну. Была, нават, уведзена цэнзура на гаворкі плямён, якія жылі каля Паміра ў г.зв. Ваханскім Калідоры.

### *„Цывілізаванне" азіятаў праз расейскую мову*

У гэтым запланаваным моўным моры, адзінай мовай, якая магла б аб'ядноўваць „цывлізаваных" праз Маскву азіятаў павінна была стаць расейская (па савецкаму ўзору ў Сярэдняй Азіі). Гэтаму дапамагалі і друкаваныя вялікімі накладамі ў СССР рознага тыпу падручнікі, слоўнікі і дапаможная літаратура для вывучэння расейскай мовы, каб падпарадкаваць сабе азіяцкія народы. Можна было павышаць кваліфікацыю на курсах расейскай мовы, што пазней дапамагала рабіць кар'еру. Ужо праз некалькі месяцаў пасля дзяржаўнага перавароту камуністы ў Кабуле атрымалі 50 савецкіх фільмаў. Рэкламай расейскай мовы займалася не толькі тэлебачанне і радыё. У міністэрствах былі створаны „дамы дружбы", у цэнтры сталіцы адчынен „Дом савецкай кнігі" а таксама выдаваліся шматлікія стыпендыі на навучанне ў Краіне Саветаў. Афганскіх дзяцей вывозілі на час у савецкія школы ў сярэднеазіяцкія рэспублікі. Адначасова да мінімуму была абмежавана навука іншым замежным мовам.

Гэтыя немалыя і каштоўныя намаганні павінны былі дапамагчы раззброіць этнічна жыхароў Афганістана. Русіфікацыя праводзілася адначасова з маніпуляцыямі. Напрыклад з геаграфічных мапаў знікалі нявыгадныя для ўладаў факты. Былі перароблены цэлыя групы гістарычных мапаў, на якіх не засталося інфармацый аб культурных традыцыях краіны. Не магчыма было знайсці звесткі пра геалагічныя дадзеныя, бо прыродныя багацці былі для савецкіх інтарэсаў найважнейшымі. З атласаў былі выкінуты цэлыя народы, а ў некаторых выпадках іх гістарычна аднеслі да суседніх краінаў. На самой справе, не было і мовы, каб паказаць сапраўднае становішча рэчаў, бо неабходна было апраўдаць палітыку дэпартацыяў і прымусіць да страты нацыянальнай свядомасці. Лічыцца, што каля 20 прац. насельніцтва, якое гаварыла на мове пушту было забіта або выгнана ў Пакістан.

Савецкія войскі пакінулі пасля сябе мора руінаў, труны і нязлічаную колькасць замінаваных палёў, на якіх і зараз гінуць афганскія вяскоўцы. Хаос ваенны, гаспадарчы і моўны будзе цягнуцца яшчэ доўга. Пасля амбітных праектаў русіфікацыі Афганістана засталіся мізэрныя сляды. Адзін з іх - слова „приказ", якое усё яшчэ выкарыстоўваецца.

*Падрыхтавана* ***Аленай Стралковай*** *паводле артыкула Лешака Дзенгеля „Як русіфікавалі Афганістан" („Tygodnik AWS")*

# ФІЛАЛАГІЧНЫ ТУПІК, АБО БЕЛАРУСКІЯ РУСКІЯ...

Не гэтак даўно прачытаў у газеце: "Заява беларускіх курдаў".

... Беларускія курды, беларускія габрэі, беларускія татары, беларускія палякі, беларускія літоўцы, беларускія грузіны, беларускія армяне, беларускія цыгане, беларускія казахі, беларускія малдаване, беларускія эстонцы, беларускія латышы, беларускія балгары, беларускія немцы, беларускія негры, беларускія эфіопцы, беларускія казакі.

Усяго паводле статыстычных звестак на Беларусі жыве каля 120 прадстаўнікоў розных народаў. Шмат якіх я згадаў у сваім пераліку. Але не ўсіх. А вось каго? Не згадаў я рускіх на Беларусі. А чаму? Ды з аднае адной простае прычыны – не ведаю, як гэта напісаць, як запісаць. Як не кручу, як не тужуся, як не мяркую – выходзіць якоесь недарэчча. Глядзіце: беларускія рускія!

Якоесь філалагічнае масла масленае, якоесь адно непаразуменне: беларускія рускія! Неяк розумам не ахапіць такое спалучэнне. А чаму? Што тут адно аднаму замінае? Адкуль ідзе гэтая нестыкоўка, гэтая супрацьлегласць? Ды два прыметнікі, стаўшы побач, пабіваюць адзін аднаго, ствараюць бессэнсоўніцу. А іншага назову расейская нацыя не мае. То як тады пазначыць, што на Беларусі жыве паўтара мільёна беларускіх рускіх? Калі напішу ці скажу: " На Беларусі жыве паўтара мільёна рускіх", ды гэта зусім не тое, што я хацеў сказаць. А я хацеў, хачу сказаць, што гэтыя рускія беларускія. Ды нешта гэта няўклюдна гучыць. А яно і напраўду: нашы беларускія рускія не зусім тыя рускія, што ў Расеі жывуць. Беларускія рускія яны ўжо трохі і беларусы.

Некаторыя з іх і нашу мову з большага ведаюць, разумеюць. І з літаратурай нашай знаёмыя, і з гісторыяй, і служаць Беларусі, як і прадстаўнікі іншых народаў. Усё гэта натуральна. Усё так і павінна быць. Толькі вось адна нязручнасць: нямаведама, як моўна пазначыць, што гэтыя рускія належаць Беларусі. Хацелася гэтую прыналежнасць укласці ў звыклую моўную мадэль кшталтам беларускія казакі, беларускія чачэнцы, беларускія ўкраінцы... Ды не выходзіць. Мо хто з чытачоў "Нашага слова" падкажа выйсце з гэтага філалагічнага тупіка і патлумачыць прычыну такой філалагічнай таўталогіі? А можа нам карыстацца наваўтварэннем "расіяне" – "беларускія расіяне". Але ж назоў "расіяне" больш шырокі, чым рускі. Расіяне – гэта ўсе жыхары ўсёй шматнацыянальнай Расіі. А мы маем патрэбу акрэсліць менавіта толькі рускіх, якія жывуць на Беларусі, належаць Беларусі. То наўрат ці назоў "расіяне" у згаданым выпадку падыходзіць. Не падыходзіць назоў "расіяне". То як тады нам падкрэсліваць, што гэтыя рускія беларускія?

***Ул.Содаль.***

# На якой мове гаворым?

Калі я прысутнічаў на сумесным пасяджэнні сяброў раённага таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны і чытачоў цэнтральнай бібліятэкі Шклоўскага раёна, то прыгадаў дыялог, які пачуў выпадкова з купкі дзяўчынак (прыкладна васьмікласніц) у гарадскім парку:

***-Я даже не знаю, как его завуць.***

***-А чаго не спыталася?***

***-Неяк стыдна было.***

Справа ў тым, што першы выступовец на пасяджэнні старшыня таварыства, выкладчык Шклоўскага ПТВ-139 Аляксандр Грудзіна звярнуўся з лейтматыўным пытаннем перад выступам: "На якой мове гаворым мы – жыхары Шклоўшчыны?" Агульнымі намаганнямі прыйшлі да высновы, што гэта і не расейская, і не беларуская мова, а наш, мясцовы дыялект з прымессю русізмаў. Інакш такую гаворку называюць "трасянкай". Менавіта гэта пацвярджае і прыведзены вышэй дыялог школьніц.

Вядома, прызначэнне раённага таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны – гэта захаванне і прапаганда беларускай мовы. Таму і гаворка вялася ў адпаведным кірунку. Так, дырэктар РВА ЖКГ Рыгор Костусеў расказаў пра тое, як ён ставіцца да беларускай мовы ў сваім жыцці, адкуль зачаліся парасткі паважлівых адносінаў да матчынага слова.

Нязмушана ўдзельнікі паседжання ад сучаснасці апынуліся ў сівой даўніне. Прыгадвалі падобныя сітуацыі, якія мелі месца ў лёсе моў іншых народаў.

Так, у часы Ягайлы і Ягайлавічаў (1386-1572) і нават пазней – да канца 17 ст. польская мова ў самой Польшчы была мовай вясковага насельніцтва і дробнай шляхты, адным словам, " мужыцкай" мовай. Вышэйшыя ж слаі польскага насельніцтва карысталіся лацінай, а ў гарадах – нямецкай мовай.

Першым падаў голас за ўвядзенне ў пісьменнасць польскай мовы рэктар Кракаўскага універсітэта Якуб з Журавіцы. У яго працы аб упарпадкаванні польскай графікі і правапісу сцвярджалася, што разумна робяць народы, пішучы сваю гісторыю на роднай мове.

Следам за ім выказаўся за польскую мову ў Польшчы каля 1475 года Астрарог. Ён дамагаецца, каб казанні для польскіх вернікаў гаварыліся не па-нямецку, а па-польску. Важную ролю ў замене лаціны на польскую мову ў каталіцкім Касцёле сыграла польская шляхта ў сваёй барацьбе за шляхецкую дэмакратызацыю правоў у дзяржаве. Пераломным стаў 1543 год, калі Жыгімонт Стары выдаў распараджэнне, каб запісы, позвы і прысуды пісаліся па-польску ў Польшчы.

Тым часам, будучы дзяржаўнай мовай Вялікага княства Літоўскага, беларуская мова не мела такога гаротнага існавання, якое яна перажывае цяпер.

Удзельнікі пасяджэння прыйшлі да высновы, што пры станаўленні (тое ж самае – пры аднаўленні) той або іншай мовы ніхто ў народа не пытаўся. Палітыку ў гэтым кірунку рабілі прадстаўнікі высокаадукаванага асяродку, патрыёты-нацыяналісты, сыны Радзімы.

Дырэктар бібліятэчнай сістэмы раёна Валянціна Шаўкавая гаварыла пра навінкі беларускай літаратуры і перыядычнага друку па абмяркоўванаму пытанню. Сярод іх назвала кнігу Яўгена Анішчанкі "Беларусь у часы Кацярыны II". Часам у выданні апісваюцца падзеі таго перыяду і са Шклоўшчыны – вядомыя ўжо і невядомыя факты, якія мелі месца пасля першага раздзелу (1772) Рэчы Паспалітай. У выніку яго Шклоў адышоў ва ўладанне Расейскай імперыі. У цэлым жа царскі ўрад дзейнічаў на далучаных землях больш, як кансерватар, чым рэфарматар і пераўтваральнік. Такую выснову робіць аўтар кнігі.

На паседжанні гучала цудоўная музыка пад кіраўніцтвам выкладчыцы раённай школы мастацтваў Алы Сяднёвай. Асабліва былі заварожаны прысутныя папулярным паланезам Міхала Агінскага ля-мінор "Развітанне з Радзімай". Усяго кампазітар напісаў для фартэп'яна каля 20 паланезаў. А названы твор стаў сусветна вядомым.

***Л. Анціпенка. Член Саюза журналістаў Рэспублікі Беларусь. Гор.Шклоў.***

### Дзень добры, рэдакцыя "Нашага слова"!

Піша вам студэнтка 1 курса факультэта беларускай філалогіі і культуры БДПУ імя М.Танка Чумічова Вольга. Пішу ўпершыню, але газету чытала ўжо даўно, класе ў 9-ым, калі асабліва цікавілася палітыкай і сучасным станам беларускасці. Зараз выпісваю "Наша слова". Я не ведаю, ці шмат да вас прыходзіць негатыўных лістоў з асуджэннямі ад усялякіх там беларусафобаў і вялікарускіх шавіністаў… напэўна. І я ні ў якім разе не хачу далучаца да іх, але, калі дазволіце, выкажу сякія-такія меркаванні наконт вашае газеты і руху за беларускае ўвогуле. Папершае вашая газета прадстаўляе ТБМ, дык чаму ж у ёй столькі "апячаткаў"? Яшчэ магу зразумець знакі прыпынку, якія разрываюць словы пасярод радка, — бывае, сама ведаю, што такое працаваць з кампутарам. Але ж для гэтага існуе карэктар. А што датычыць іншых апячаткаў – як павінна я рэагаваць на пафасны заклік: "Жыве беларуская мома!"? І гэта не адзінкавы выпадак. Нават я, без адукацыі дзяўчына, заўважаю безліч такіх ляпаў, а што ж людзі з вышэйшай, а можа і не адной, адукацыяй, якія чытаюць "Наша слова"? Я лічу, што вельмі важна звярнуць увагу на гэты недахоп: вы ж самі змагаецеся за чысціню нашае мовы!

А што датычыць барацьбы за беларускую мову, я лічу, што не трэба вяртаць мяккі знак і ўсё іншае, што было да 1933 года. Можа, тады вернем старабеларускае пісьмо? Хаця, канешне, я згодна, што ўплыў арфаграфіі настолькі сапсаваў наша вымаўленне, што нават настаўнікі гавораць "на доніцы" і г.д. А ўжо калі я скажу "нясвіскі", "Астроскі" ці "нарэс'це", наогул людзі падумаюць, што ў мяне з дыкцыяй праблема. Але гэта ўжо хібы нашай адукацыі, а не рэформы 1933 г. Наступнае. На мой погляд, чым "дзяліцца сваёй заклапочанасцю з нагоды стану беларускай мовы", "праводзіць пікеты" і выкрыкваць гучныя лозунгі тыпу "Жыве Беларусь" і г.д., трэба змяняць здаецца безнадзейную сітуацыю вакол сябе. Так, пакуль што я не заўсёды размаўляю на беларускай мове, бо не знаходжу падтрымкі сярод сваіх аднакурснікаў (спецыяльнасць у мяне – англ.мова і бел.мова і літ-ра, таму большасць паступілі сюды дзеля замежнай), але я ведаю, што ў хуткім часе пераадолею гэты бар'ер. І я не хаджу з лозунгамі – я проста вучуся, каб стаць настаўніцай мовы і літаратуры, каб несці дзецям, не толькі веды, але і любоў да нашай Радзімы, яе культуры. І калі паралель маіх вучняў будзе любіць і паважаць Беларусь, валодаць сваёй мовай, ці не дасягну я большага, чым падлеткі з маладога фронту, якія крычаць: "Далоў Лукашэнку", а дома слухаюць "Нірвану"? Даруйце, калі я была катэгарычнаю ў сваіх поглядах, але гэта юнацтва. Поспехаў вам. І яшчэ. Калі б вядомыя дзеячы культуры Беларусі прыходзілі ў навучальныя ўстановы і агітавалі размаўляць на беларускай мове (хаця б у нас, у БДПУ), мне здаецца, гэта дало б плён.

З павагай,
*Чумічова Вольга.*

### Добры дзень, паважаная рэдакцыя!

Піша Вам вучань 10-га класа СШ № 2 г. Дзятлава. Падставай для напісання ліста сталася дасланне подпісаў за адкрыццё беларускамоўнай ВНУ, але акрамя гэтага ў мяне ёсць да вас шэраг прапаноў.

1. На асабістым прыкладзе я ведаю, што ваша газета губляе шмат падпісчыкаў, якія выпісалі б яе з задавальненнем, але не падазраюць аб існаванні такога выдання. Першы раз пра "Наша слова" я пачуў па тэлевізары ў праграме "Роднае слова", дзе гаварылася аб аднаўленні газеты, але не выпісваў, таму што сумняваўся аб распаўсюджванні па падпісцы. Другая сустрэча адбылася ў кабінеце беларускай літаратуры, калі і вырашыў канчаткова, што падпішуся. І тут таксама ў мяне не атрымалася. А ў першай палове гэтага навучальнага года да нас у клас на ўроку беларускай мовы завітаў пісьменнік, сябра ТБМ Рыгор Шундрык, які і падпісаў мяне ад імя ТБМ. Я прапаную даць аб'явы ў газеты большага накладу, напрыклад, "Звязда", "Рэспубліка", "Народная газета", "Чырвоная змена".
2. У жыцці я часта сустракаюся з фактамі, якія сведчаць аб смеласці людзей. Узяць хаця б прайшоўшы перапіс насельніцтва: людзі перакана081 аб яго справядлівасці. Таму я прашу звярнуцца з заклікам да чытачоў напісаць аб парушэннях пры перапісе ў дзяржаўныя СМІ.
3. Я хацеў бы ўступіць у ТБМ. (Мне 16 гадоў). Чуў пра маладзёвую арганізацыю Таварыства. Раскажыце, калі ласка, аб гэтым на старонках газеты.
4. Нядаўна пачуў аб тым, што ёсць прапановы друкаваць у "Нашым слове" правілы, або нормы правапісу дарэфармаванай беларускай мовы. Я выступаю ў падтрымку гэтай ініцыятывы.

Вось і ўсё. Да пабачэння!

### Дарагія беларусы!

Звяртаюсь да вашых сэрцаў!

Большасць жыхароў Менска – гэта людзі, якія нарадзіліся ў вёсках ці праводзілі лета ў бабуль. Ці даўно вы былі ў родных мясцінах? Пабывайце там. Успомніце прыгажосць гэтых куточкаў. Успомніце, як хадзілі па мяккай траве, любаваліся лесам, рэчкай, кветкамі. Успомніце голас роднай матулі і бабулі, прыгажосць нашай мовы, нашых беларускіх песень. Іншыя народы будуць паважаць нас, калі мы будзем паважаць самі сябе. Любіце сябе, любіце свой народ, любіце сваю культуру. Чытайце беларускія кнігі, беларускую паэзію. Бывайце ў бібліятэках, музеях, тэатрах. Помніце, — мы – народ, мы нацыя не горшая за іншых. Нам ёсць чым ганарыцца. Гісторыя наша славутая, людзі нашы праславіліся ва ўсім свеце добрымі справамі. Ганарыцеся, што вы – беларусы. Не губляйце гістарычнай памяці. Калі мы беларусы, родная мова наша – беларуская і ў хаце мы размаўляем пабеларуску.

*Кацянкова Вольга г.Менск.*

### Добры дзень, паважаная рэдакцыя газеты "Наша слова"!

Прыемна чытаць Вашу газету, атрымліваць аб'ектыўную інфармацыю. Асабліва карысным лічу для сябе рубрыку "З чужой моўнай практыкі", дзе даецца тлумачэнне тым беларускім словам, якія павінны ўжывацца замест русізмаў.

Зараз трэба вялікая вытрымка, каб усюды гаварыць па-беларуску. Губляецца аблічча нацыі, губляецца з-за таго, што многія саромеюцца сваёй мовы, забываюць яе і смяюцца з яе. Беларусы аказаліся такімі шчодрымі, што адмовіліся, па сутнасці, ад сваёй мовы. Толькі павага да мовы, гісторыі і культуры свайго народа дасць адчуць нам сябе сапраўднай нацыяй, мы пачнём паважаць саміх сябе, а значыць і іншыя нацыі нас будуць больш паважаць.

Без сваёй мовы народ – не народ, а нейкі безаблічны натоўп людзей, якія не змогуць самастойна вырашаць свае праблемы. Такім народам лёгка кіраваць. Нездарма ў тыя часы, калі Беларусь была ў складзе Польшчы ці Расейскай імперыі, наша мова была пад забаронай. Беларусам давалі зразумець, што няма такой мовы – беларускай, што гэта сапсаваны дыялект польскай ці расейскай мовы. Беларусаў называлі тутэйшымі. Нашым продкам давалі зразумець, што яны самастойна, без іншай дзяржавы (Польшчы ці Расеі ў першую чаргу) не змогуць існаваць, не змогуць жыць. І ў нас гэтая думка, мабыць, сапраўды перадавалася з генамі з пакалення ў пакаленне, таму што дзе яшчэ ў якой краіне свету можна ўбачыць такія абыякавыя адносіны да роднай мовы.

Таму зараз кожны свядомы беларус павінен рабіць усё тое, што дазваляюць яго сілы, яго энергія. Рабіць усё магчымае, што ад нас залежыць, каб захаваць сваю мову.

Паважаная рэдакцыя! У мяне да Вас просьба. Дапамажыце мне, калі ласка, набыць кнігу Васіля Быкава "Сцяна" і, калі ёсць яго яшчэ якія апошнія зборнікі, то і іх. Я заплачу, колькі трэба. Ведаю толькі, што адзін яго твор будзе друкавацца ў "Полымі"!

*Кавальчук Валянцін.*

### Добры дзень, шаноўнае "Наша слова"!

12 студзеня г.г. я паглядзела на беларускім тэлебачанні перадачу "Сёння з вамі". І быў з намі міністр адукацыі сп.Стражаў В.І. Сустрэча наколькі неабходная, на столькі і горкая. Горкая ад таго, што і заг. дзіцячага садка, і дырэктар пачатковай школы, амаль усе супрацоўнікі школы (не магу іх назваць настаўнікамі, гэта проста вучыцелі) – усе бавілі час на расейскай мове. Я вось думаю, а чаму міністр адукацыі адказваў ім на мове суседняй дзяржавы? Мо ён ведаў, што яны такія няўцямлівыя і не зразумеюць, калі ён адкажа на тытульнай мове нацыі? Успомніла я чамусці расейскіх класікаў 19 стагоддзя, героі раманаў якіх паміж сабой вялі размовы толькі па-французку, а з халопамі (чэляддзю) размаўлялі па-расейску, бо халопы не разумелі французкай мовы. Напэўна і гэтыя вучыцелі, як і тыя халопы, не здольны зразумець шляхетнай, вытанчанай, высокароднай беларускай мовы, бо, ведама ж, беларуская мова – гэта мова Еўропы, як і французкая. Таму і вымушаны паважаны спадар міністр адукацыі адказваць так, каб яго зразумелі.

Я ўсведамляю розны сацыяльны статус мой і міністра адукацыі. Як чалавек працавіты, паважаю і навуковыя працы міністра адукацыі. Але ж я грамадзянка Рэспублікі Беларусь і лічу, што не да твару міністру адукацыі рабіць выгляд, што не бачыць бядотнага становішча мовы, назву якой носіць краіна. Калі ў нас законам уведзена роўнасць моў, то трэба ж так і рабіць. Амаль усе пытанні спецаў адукацыі былі на расейскай мове. Каб дасягнуць роўнасці, адказы павінны былі гучаць на беларускай мове, а не патураць невукам ад адукацыі.

Самае дзівоснае напрыканцы. Паступіла прапанова налічваць дадатковую заробную плату выхавацелькам садкоў за навучанне замежнай мове. Ну што ж, за лёс французкай мовы на Беларусі можна не хвалявацца. Тут усё ў парадку. А ці не было б лепей гэтую плату налічваць за навучанне беларускай мове на Беларусі?

*Л.Судзілоўская.*

### Пракокі звярнутыя ў мінулае

Самым хвалюючым і непрадсказальным з'яўляецца будучае чалавецтва. Ва ўсе часы людзі спрабавалі прыадчыніць таямнічую заслону, што хавае ад іх будучыню, і зазірнуць туды. Але ж няма, напэўна, больш пэўнага спосабу мяркаваць аб будучыні, як па падзеях дзён мінулых. Сапраўдны прарок той, хто ведае і памятае сваё мінулае, бо ён не асуджаны зноў перажываць мінулых памылак… Людзі, якія вывучаюць гісторыю чалавецтва, якія звязалі сваё жыццё з гэтай навукай, — будучыя гісторыкі. Якія яны? Чым жывуць і як жывуць? "Студэнт гістарычнага факультэта БДУ – гэта гучыць ганарова," – так лічаць самі студэнты.

Безумоўна, аб прэстыжнасці гэтай прафесіі ў матэрыяльным плане гаварыць не даводзіцца, але на ўступных іспытах конкурс перавышаў пяць чалавек на адно месца. Гэты факт гаворыць, калі размаўляеш са студэнтам-гісторыкам, адразу разумееш, як глыбока ў ім укаранёціся ідэі нацыянальнай самасвядомасці, агульначалавечага гуманізму і, безумоўна, гонару за свой народ. Гэтыя маладыя людзі з захапленнем і павагай размаўляюць на роднай беларускай мове. Для іх яна – самая прыгожая і мілагучная ў свеце.

Гледзячы на іх, мацнее вера ў лепшую будучыню роднай Беларусі, у тое, што час разбурэння блізіцца да завяршэння. Моладзь, адданая нацыянальнай ідэі, вера і надзея нашай Бацькаўшчыны, прарокі, звернутыя ў мінулае.

*Нікіцюк Ірына,*
*студэнтка БДУ гістарычнага факультэта.*

## Паважаная рэдакцыя "Нашага слова"!

*Нясцерпны боль за сённяшняе становішча нашай зямлі, роднай Беларусі, і пакутная трывога за яе будучыню з'явіліся прычынай для напісання майго артыкула. І мне вельмі хацелася б, каб у вас знайшлася магчымасць надрукаваць яго на старонках "Нашага слова". Дзякуй вялікі.*

#### Да народа праз мову

Чаму так здараецца, што мы, беларусы, жывучы на сваёй роднай зямлі, не ведаем сваёй мовы, ні культуры? Мабыць таму, што з дзяцінства не прывучаны бачыць хараство роднага краю, яго багацці. Дастаткова пагледзець на сённяшнюю моладзь. Разбэшчанасць, вульгарнасць, жорсткасць, абыякавасць, знявага да старэйшых пануюць цяпер усюды. А ці задумваўся хто, чаму так здарылася? Чаму не прызнаюць яны ні сваёй мовы, ні народа, да якога належаць, чаму не паважаюць краіну, дзе раслі і гадаваліся? Няўжо тыя пакуты, здзекі, што цярпелі нашы продкі былі дарэмнымі?

Калі мы хацелі, нам забаранялі размаўляць на сваёй роднай мове. А цяпер, не маючы падмацавання, яна пачынае гібець і павольна гінуць. І толькі паэты, пісьменнікі засталіся адданымі сваёй Радзіме. Іх творчасцьневычэрпнае натхненне гарачай любові да роднага краю, да каранёў сваіх, да народа свайго. Таму нам так цікавы сустрэчы з такімі людзьмі. Сяргей Грахоўскі, Генадзь Бураўкін, Ніл Гілевіч, Уладзімір Арлоў – вось тыя, хто прымусіў мяне зірнуць на свет расплюшчанымі вачыма.

Гэтыя людзі, бачачы, што гібее душа беларуса, што знікае пявучая, прыгожая, пяшчотная мова, заклікаюць нас не цурацца, а абараніць яе. Бо знікне мова – знікне ўся беларуская нацыя. А гэтага нельга дапусціць.

У разнастайным працэсе жывой рэчаіснасці яны вылучаюць сферу побыту, свет штодзённых людскіх клопатаў і турботаў, узаемаадносін паміж людзьмі. Быт для іх – сродак даследвання чалавека, раскрыццё ягонай сутнасці, душэўнай дабрыні. Стан чалавека, яго душэўныя радасці і пакуты – усё гэта пераносяць пісьменнікі, паэты на старонкі сваіх твораў.

А ці памятае хто, як прыемна і хораша становіцца на душы пасля прагляду спектакля, напрыклад, у Купалаўскім тэатры? Менавіта там мы знаёмімся з гісторыяй, асаблівасцямі нацыянальнага побыту, традыцыямі нашага народа.

Мы разумеем, што мілагучная, звонкая мова, на якой размаўляюцьакцёры, дадзена нам ад маці, як найдаражэйшы скарб. І як прыемна спасцігаць духоўныя багацці нацыянальнай і сусветнай культуры на мове нашых бацькоў!

Таму я вельмі хачу, каб у нашым жыцці гэтых сустрэч, знаёмстваў было, як мага больш. Бо яны натхняюць нас на высокія пачуцці. І мы усведамляем, што жывём на сваёй роднай зямлі, і іншая нам не патрэбна.

*Таццяна Аўраменка,*
*студэнтка 18 групы БДТУ.*



# НЕ ПОЛЕ ПЕРАЙСЦІ

## Дакументальны аповед Рыгора Шавуры

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

Мне здавалася, што засну адразу, як толькі на сваёй паліцы прыму гарызантальнае ўлежышча . Але праходзіла паўгадзіны, гадзіна, заснуць не даводзілася. Розныя думкі лезлі ў галаву. Усё да падрабязнасцяў успаміналася пра нашу паездку, уражанняў назбіралася шмат. Кожны з нас ведаў, колькі клопатаў прыйшлося вынесці Алене Іосіфаўне, каб ажыццявіць вось гэтую паездку. Мастацкія прыналежнасці "прабівала" праз Саюз мастакоў, у магазіне ж не купіш. Дамаўлялася з машынай у Гомельскім доме самадзейнай творчасці, з намі – няштатнымі кансультантамі, мастацтвазнаўцамі. Ішла ў Белсаўпраф, у другія інстанцыі, каб паклапаціцца аб матэрыяльнай дапамозе чалавеку, які так адчуваў патрэбу ў гэтым. І не аднаму толькі Міхасю Засінцу. У рэспубліцы армія народных майстроў і самадзейных мастакоў вялізная – не адна тысяча. Колькі ж патрабавалася часу, энэргіі, каб трымаць пастаянна ў полі зроку бадай што кожнага майстра, кіраваць працэсам усяго развіцця мастацкай самадзейнасці. Алена Іосіфаўна, нягледзячы на свой даволі немалады ўзрост, знаходзіла і час, і сілы, каб сваечасова прыйсці на дапамогу чалавеку, падбадзёрыць яго, натхніць на творчыя пошукі, падтрымаць цеплынёй свайго сэрца. Менавіта любоў да людзей, прага быць неабходнай і карыснай для іншых давалі ёй сілы ў працы і ў жыцці.

### РАДКІ З БІЯГРАФІІ

А жыццё Алены Іосіфаўны – гэта цэлая эпоха, гэта гісторыя, неад'емная ад жорсткіх, суровых і трагічных катаклізмаў чалавечых лёсаў, усяго нашага народа.

Нарадзілася Алена Іосіфаўна ў Барысаве, у сям'і рабочага. У падросткавым узросце асірацела разам з меншымі сястрычкамі і братам. Бацьку забілі ў 1919 годзе бандыты, а маці, якой споўнілася толькі 27 год, памерла. На выхаванне ўсіх іх узяў дзядзя. Матэрыяльнае становішча такой вялікай сям'і было да крайнасці цяжкім. Першыя гады рэвалюцыі. У краіне – разруха, голад. Хлеб пяклі з жалудовай мукі. Ён быў горкім як палын, каляным, есці было проста немагчыма. Але елі каб не памерці з голаду. Летам было лягчэй. Збіралі шчаўе, ледзь завязваліся яблыкі, ці якая-небудзь ягадзіна, усё ішло ў ежу. Не было і адзення, абутку. Даводзілася насіць паношаную вопратку, ды і не па памеру. Не было дзе купіць, не было і сродкаў на гэта. Неўзабаве здарылася бяда. Страшэнны пажар некалькі дзён бушаваў у горадзе. Згарэла амаль што паў-Барысава, у тым ліку хата і ўся маёмасць дзядзі. Засталіся бадай што толькі з тым, у чым былі апрануты. Давялося для жылля ладзіць зусім не прыстасаванае памяшканне. Бытавыя цяжкасці абвастрыліся да крайнасці. "Усе мы ад мала да вяліка шукалі выхад з такога крызіснага стану, усяляк змагаліся за жыццё", — успамінала Алена Іосіфаўна. Працавалі, кожны рабіў, што мог. Памерлі двое сясцёр. Засталіся малодшыя сястра і брат. І ўсё ж, як бы не было цяжка, Алена вучылася у школе, дапамагала дзядзю па гаспадарцы. Час ішоў. Скончыла дзесяць класаў, паступіла ў педагагічны тэхнікум. Пасля другога курса тэхнікума пайшла працаваць настаўніцай у пачатковую школу ў Пячах (пад Барысавам), потым у вёсцы Старынкі Лагойскага раёна. Жыццё паціхеньку наладжвалася. У 1924 (25) годзе пазнаёмілася са сваім будучым мужам. Тады ён – камандзір артылерыйскага батальёна – нейкі час кватараваў у хаце дзядзі – Нагорнага Андрэя Вікенцевіча. Алена прыязджала з сваёй настаўніцкай работы на выхадны дзень дамоў, вось тут яны і сустэліся. Але іх знаёмства было не такім ужо простым. Ганарлівы характар Алены не дазваляў так хутка і проста пакарыць яе сэрца вось гэтаму падцягнутаму, у высокім чыне вайсковаму чалавеку. Падабаўся і ён ёй, ды ці ж можна было так проста адкрыць свае асабістыя пачуцці? Колькі разоў прызначаў спатканне, усё не адважвалася. Але аднойчы ногі самі панеслі туды, дзе сярод векавых дрэў чакаў ён. А які абутак тады быў. Чаравікі зберагала, ішла басанож, і толькі перад самым месцам сустрэчы абувалася. Але ж на душы было хораша, навакольны свет здаваўся цудоўным.

Прайшоў нейкі час, Алена і Міхаіл пажаніліся. З гэтага часу пачалося новае жыццё, якое напаўнялася надзвычай разнастайнымі яго адценнямі і праявамі. Полк, у якім служыў муж, перавялі ў Бабруйск. Туды паехала і Алена. Жыццё ў Бабруйску, а тым самым і служба мужа, не былі аседлымі, пастаяннымі. Прайшло некалькі часу, пераехалі ў Віцебск . тут у 1926 годзе ў іх нарадзіўся сын Вова. У той час бальніца (роддом) знаходзілася на правым беразе Дзвіны. Гэтае памяшканне захавалася і да нашых дзён. Колькі добрых успамінаў і разам з тым слёз прынесілі Алене Іосіфаўне тыя мясціны, калі яна прыязджала ў Віцебск ужо потым праз дзесяцігоддзі? Але не будзем забягаць наперад. Працягнем наш аповед далей, у той час, менавіта пра тое, калі шчасце, радасць і добры настрой былі заўсёды побач. Маладосць, надзеі – усё было для іх – Алены і Міхаіла.

Праз два гады зноў вярнуліся ў Бабруйск. Пачалі абжывацца. Падрастаў сынок. Здавалася, нічога іншага і не трэба. Ды вось зноў у дарогу. Цяпер шлях ляжаў у Днепрапятроўск. Мужа прызначылі камандзірам 30 артпалка 30-й артылерыйскай дывізіі. Наступаў самы цікавы і самы трагічны перыяд у жыцці Алены Іосіфаўны. А цікавым і да пэўнай пары шчаслівым быў перш за ўсё таму, што ў жыцці вельмі добра і прыгожа ўсё складвалася. Атрымалі добраўладкаваную кватэру. Здаровым і жвавым падрастаў сын Вова. Ды і сама Алена без справы не заставалася. За гэты, днепрапятроўскі перыяд яна скончыла 2-х гадовыя курсы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і трохгадовыя курсы стэнаграфістаў, што вельмі прыдалося ў далейшым жыцці. Пасля заканчэння курсаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва некалькі год кіравала гуртком вышыўкі сярод жонак афіцэрскага складу. Арганізоўвала выставы работ майстрыц, актыўна ўдзельнічала ў мастацкай самадзейнасці. Добра памятаецца неардынарная падзея ў жыцці складу 30 артылерыйскай дывізіі, калі прыязджаў М. І. Калінін, уручыў узнагароды афіцэрам і чырвонаармейцам падраздзяленняў. Красічкава стэнаграфавала выступленне тады ўсерасейскага старасты. Менавіта ў гэты днепрапятроўскі перыяд за актыўную працу і вялікі ўклад у справу выхавання моладзі Алена Іосіфаўна была абрана дэлегаткай на ўсесаюзную раду жонак камандзіраў у Маскву ў 1936 г. На гэтай радзе, як успамінаецца, прысутнічала звыш 500 жанчын-дэлегатак. Рада праходзіла ў Вялікім крамлёўскім палацы ў Георгіеўскай зале Крамля. Сустрэча адбывалася з К. Я. Варашылавым і Н. К. Крупскай. Надзея Канстанцінаўна доўга і надзвычай цёпла вяла гаворку аб жыцці, выхаванні маладога пакалення. Красічкава паднесла падарунак Н.К.Крупскай – вышыванае пано ад жонак вайскоўцаў БВА. Дэлегаты, у тым ліку і А.І.Красічкава, былі ўзнагароджаны залатымі іменнымі гадзіннікамі ад Наркамата Абароны...

Вельмі прыгожа і ўрачыста сустракалі мясцовыя ўлады жонак-дэлегатак у Днепрапятроўску. Пад'ехалі машыны, духавы аркестр, кветкі, кветкі... Не было мяжы радасці, шчасця, жыццёвага ўзлёту. Здавалася, так – на ўсё жыццё. Але не ведала ў гэты выдатны і шчаслівы дзень Алена Іосіфаўна, што роўна праз год здарыцца катастрофа, якая стане пачаткам страшэннай трагедыі, усім зместам незаслужана прыніжэння чалавечай годнасці, горам і бязмежнымі пакутамі.

Але гэта яшчэ толькі праз год. Сёння ж радасна і прыгожа на душы. Ці ж можна было думаць аб чым-небудзь дрэнным, калі навокал жыццё, здавалася было на новым уздыме. Такія адбываліся змены: пабудова сацыялізму, прыняцце новай, Сталінскай Канстытуцыі, паспяховыя этапы індустрыялізацыі краіны, калектывізацыя... Дзяржава саветаў сямімільнымі крокамі рухалася да новага прагрэсу.

Не менш турботным жыццём была і служба ў Савецкай Арміі. Традыцыйнай і адпрацаванай на працягу доўгага часу заставалася кампанія летніх лагерных расквартараванняў вайсковых частак і гарнізонаў. Полк, якім камандаваў муж Алены Іосіфаўны, некалькі год у летні перыяд дыслакаваўся ля Паўлаграда. Там праводзіліся вайсковыя вучэнні, адпрацоўваліся стратэгія і тактыка ўзаемадзеяння розных родаў войскаў, выпрацоўвалася баявая тэхніка.

Вяртаючыся з летніх лагераў, муж доўга і шмат расказваў аб розных эпізодах, падзеях, людзях і іх турботах. Шмат што насцярожвала, не ўсё станавілася зразумелым. Столькі вялося гаворкі аб "ворагах народа", якіх станавілася з кожным часам усё больш. Чуткі пашыраліся ўсюды. Сярод "ворагаў народа" сталі з'яўляцца людзі вядомыя, заслужаныя ў грамадстве. Неўзабаве "ворагамі" станавіліся добра знаёмыя, калегі і таварышы. Аднойчы на адным сходзе палка краснаармейцы задалі пытанне мужу Алены Іосіфаўны:

—Таварыш камандзір, вось вы служылі ў арміі яшчэ ў першую імперыялістычную. Скажыце, як тады, ды і асабліва ў грамадзянскую, ваявалі ворагі народа?

Красічкаў Міхаіл Захаравіч адказаў:

—І ваявалі, і перамагалі!

Гэты адказ на пытанне сярод зацікаўленых у кампраматацыі аўтарытэту камандзіра людзей паступова набываў адметную афарбоўку. Пашыраліся чуткі аб тым, нібы камандзір палка ўсхваляў ворагаў народа. Наступаў перыяд нейкай незразумелай нясцярожнасці. Дзесьці хто штосьці гаварыў, што як сказаў... Усялякія дробязі, падазроныя і нікчэмныя запаўнялі прастору ў адносінах паміж людзьмі. У кожнай гаворцы, слове шукалася тое, што можна было паднесці ў адпаведных абставінах, як кампраматны доказ перад грамадствам зусім сумленнаму і ні ў чым не вінаватаму чалавеку.

Збіраліся хмары і над камандзірам. На працягу некалькіх год вялося сяброўства з сям'ёй намесніка начальніка палітаддзела палка Румянцава. Часта бывалі адзін у другога, шчыра абменьваліся думкамі, разважалі. У адной з такіх сустрэч Красічкаў сказаў:

—Якія зараз творацца справы, дзіву даешся. Сёння можна заснуць пры адной уладзе, а прачнуцца – пры другой. Цяжка разабрацца!..

Праз пэўны перыяд Румянцаў далажыў на партыйным бюро тое, што сказаў камандзір. Тут жа пачаліся разбіральніцтвы і вынікам усяго гэтага стала выключэнне Красічкава з партыі. Цяжка перадаць словамі, які душэўны і псіхалагічны ўдар разануў па чалавеку, на рэдкасць фізічна моцнаму, заўсёды ўраўнаважанаму і стрыманаму. Гэты ўдар выбіў з каляі, паставіў у вельмі складанае становішча камандзіра перад падначаленымі, знаёмымі, блізкімі. Кваліфікацыя матываў выключэння з партыі была недарэчнай і абсурднай. Столькі сіл, досведу, добрасумленнага служэння гэтай жа партыі, народу і ўрэшце аказаўся нейкім злачынцам, пры тым злачынцам самай сур'ёзнай небяспечнасці. Не хацелася верыць, але падзея адбылася, яе неабходна прымаць. Цяжка перажывалася. Становішча з цягам часу ўскладнялася. Пачалася рознабаковая траўля, ганенне, высвятленне спраў...

І вось, 14 кастрычніка 1937 года, у дзве гадзіны ночы раздаўся пранізлівы званок. Алена Іосіфаўна адчула трывогу, так раней ніхто не званіў. Яна звярнулася да мужа і кажа:

—Гэта да цябе.

Муж выйшаў з кватэры і доўга не вяртаўся. Калі ён вярнуўся, яна зразумела – прыйшоў час арышту. Ён падышоў да Алены Іосіфаўны і глыбока і цяжка ўздыхнуўшы прагаварыў:

—Падай іменную зброю, патрабуюць.

Алена Іосіфаўна вынялa з камода "Браўнінг". У гэты час у пакой ўвайшлі міліцыянер, упаўнаважаны НКУС і кіроўца машыны. Яны раптоўна схапілі яе за рукі і вырвалі пісталет. Затым упаўнаважаны паспрабаваў адарваць у мужа пятліцы, але ён адштурхнуў яго і моцна ўскрыкнуў:

—Не ты мне іх вешаў. Я ваяваў, калі ты пад стол пешкам хадзіў.

Міхаіл Захаравіч апрануўся і стаў развітвацца з сям'ёй. Сын Воўка і Алена Іосіфаўна прытуліліся да яго і запрычыталі. "Тройка" прыспешвала да выхаду.

Адыходзячы да дзвярэй камандзір павярнуўся да жонкі з сынам і прагаварыў:

—Не вер нікому, беражы сына. Заўсёды ведай, я чысты перад людзьмі, партыяй, Радзімай...

Яны выйшлі. Неўзабаве следчы вярнуўся і запатрабаваў ад Алены Іосіфаўны падпіску аб нявыездзе і яна падпісалася.

У двары загрымела машына, і менш, як праз паўхвіліны, яе шум заціх дзесьці ўдалечыні. Спаць ужо ў гэтую ноч не давялося. Сэрца адчувала бяду. Усё думалася, думалася, зноў усё перабіралася ва ўспамінах. Не было за што ўчапіцца, каб адшукаць хоць якую-небудзь віну перад законам. Так хацелася верыць, што гэта памылка, што праз дзень-другі вернецца муж. Усялякае здараецца ў жыцці, а тым больш памылкі...

Раніцай Алена Іосіфаўна, устрывожаная і панурая выйшла на вуліцу. Вось тут стаяла машына, адсюль яна павезла мужа. Куды, навошта, надоўга? Некаму, ды і немагчыма было адказаць на гэтыя пытанні. Зноў вярнулася ў кватэру. На шляху сустрэла суседку, тая не прывіталася, зусім адвярнулася і пайшла. У пакоі ўсхліпваў сын. Дзесьці наверсе патэфон круціў грамафонную пласцінку. Гучала песня "Живём сегодня весело, а завтра будет веселей...". Алена Іосіфаўна абняла сына і ў адчаі заплакала. Цягнуліся горкія і нікчэмныя дні існавання. З дня на дзень чакала хоць якой-небудзь весткі ад мужа. І бадай што не дарэмна. Не прайшло і два тыдні, як зазваніў тэлефон. Міхаіл Захаравіч перадаў сыну (Алена Іосіфаўна адсутнічала ў гэты час), што ён знаходзіцца ў турме, і каб маці тэрмінова напісала пра ўсё гэта Сталіну, бо абставіны складваюцца так, што ніхто іншы дапамагчы не зможа. Толькі потым Алена Іосіфаўна падумала, як жа можна было патэлефанаваць з турмы? Напэўна надарыўся рэдкі выпадак і муж яго выкарыстаў. Ліст вялікі і шчыры быў напісаны адзінаму "спасіцелю" народа, дарагому Іосіфу Вісарыёнавічу. Шлях яго да канкрэтнага адрасата стаў бязмерна доўгім, бясконцым і безваротным.

*(Працяг у наступным нумары)*

# Беларускае слова: Самсон Пярловіч

## Паднімецца крыўда

І ноччу і днём падхалімы скуляць
Пра росквіт жыцця, пра свабоду.
Ад гэтай "свабоды" аж стогне зямля.
А ў росквіце тым – смерць народу.

Тыран – дэспат Сталін старых і малых
Запрогшы ў прыгонныя ёрмы,
Нявіннай крывёй суцяшае іклы,
Каму колькі жыць – ставіць нормы.

Людзей, каб прымусіць пакорна маўчаць
Пад страхам, як вязняў бяспраўных,
Са зграяй сваёю пачаў вынішчаць
Народа сыноў самых слаўных.

А каб заглушыць і праклёны, і боль,
Кляймом страшным – "Вораг народа"
Кляймяць чалавека, ды ўсё што раз больш
Знішчаюць людзей з кожным годам.

Калі б удалося ўсе косці сабраць
Усюды, дзе палі ахвяры,
З касцей тых, напэўна, паўстала б гара,
Што рвала б вяршыняю хмары.

А слёзы і кроў, што замучаны люд
У горы бязлітасным выліў,
Калі б не праніклі ў матулю-зямлю,
І сонца, мабыць, патушылі б.

Ці ж выцерпіць крыўда? Мільёнам галоў
Яна яшчэ грозна паўстане!
Хіба хто апошнім сумленнем аглох,
Той толькі мо сцерпіць маўчанне!

## Нясмяротная Пагоня

Святая, грозная Пагоня,
Век Беларусь ты бараніла,
Таму ў трывожны час і сёння,
Ты – гонар наш і наша сіла.

Падчас, у жудасным бяздонні
Хоць сілы нас і пакідалі,
Твае і рыцары, і коні
Зноў дух на бітву паднімалі.

Малюся, хоць нахай і злягу,
Каб вечна велічнай вывай
Пад Бел-чырвона-белым сцягам
Ты ззяла над усёй Дзяржавай.

Грамі захопнікаў і здраду!
Удар твой Богам блаславёны,
Бо служыш нам не для нападу,
А сужыш нам для абароны.



ЧАРАДЗЕЙНЫ АГОНЬ
Самсон Пярловіч
Паэзія і мастацкая проза
г. Навагрудак
1997 г.

## Наваградак

Ты – Наваградак, ты – Наваградак,
Мой гарысты горад дарагі.
Дзе б ні быў я, па табе мне ўсюды
Сэрца замірае ад тугі.
Кліча, вабіць здзірванелы Замак,
Люстра Свіцязі штоночна сню.
І Курган Міцкевіча Адама
Рассцілае мне далечыню.
Аніяк душа не наглядзіцца,
Як вянком блакіцца лясы.
Вецер праз шчарбатыя байніцы
Нам даносіць продкаў галасы…
Быў жа ты калісьці і сталіцай.
Строма ўзняты між лясоў і ніў,
Замак твой ад дзікіх чужаніцаў
Родны край надзейна бараніў…
Ты і сёння, як крыло надзеі,
Абагрэты сэрца цеплынёй,
З кожным днём расцеш і маладзееш,
Непаўторны летам і зімой.
І крылатай песняю бадзёрай
Над табой праносяцца гады…
Мой гарысты шматвяковы горад,
Ты душою вечна малады.

## "Шылам брыты"

За лясамі, за барамі,
Ходзіць вецер вечарамі,
Цераз рэкі, цераз нівы
Нам прыносіць казкі-дзівы.
І вось гэту (хоць не казка)
Ты паслухай, калі ласка.
Было гэта даўнім часам,
Калі елі бульбу з квасам…

Дзядзьку захацеў адведаць.
Дзе ён жыў– добра не ведаў.
Прабіраўся пехатою
Да той вёсачкі глухое
З дзіўнай назваю Кульбакі –
Трапіць мог туды не ўсякі.
Апынуўся надвячоркам
За дзесятым можа ўзгоркам
І ля крайняе там хаты
Напаткаў дзяцей мурзатых,
Ды пачаў у іх пытацца,
Як да Ціхана прабрацца?
Тыя хорам мне гукнулі:
—Пра яго мы і не чулі!
Ад Крывога да Касога
Тут у нас няма такога!
Я тады ім растлумачыў –
Дзядзьку помніць
хто пабачыў,
Бо твар воспаю пабіты.
—Ах, дык гэта
Шылам брыты!—
Падшыванцы закрычалі,
Зашумелі, заскакалі,—
—Так адразу і кажы ты,
Што твой дзядзька
Шылам брыты!
Закрычаў я:
—Ліхадзеі,
Мабыць вы павар'яцелі.
Ён жа слаўны, працавіты!
А яны мне:
—Шылам брыты!
Сцяміў я, што
ў тых мясцінах
Не завуць, як на хрысцінах,
Ці пасля…
Але за вочы –
Так, як брахануў аднойчы
Грубіян непрызваіты.
Так стаў дзядзька –
"Шылам брыты".

## Аб сустрэчы крывавай з эмдэбістам Цанавам

Як забойца – наган
Сваім вокам смяртэльным,
Аўта-чорны груган
Сваім зззекам пякельным
Нават бачыцца ў сне,
То здалёку, то зблізку…
Мяне ў тым "груганe"
Валачылі па Мінску,
Бы ў забітай труне,
Да сустрэчы крывавай
Набліжаў ён мяне
З эмдэбістам, Цанавам,
Жар мне сэрца паліў,
Слеплі вочы ад мукі,
Пот змахнуць не маглі
Закаваныя рукі.
А пасля гнаў канвой –
Уцячы немагчыма –
Двух было прада мной,
Ды і двух за плячыма.
У іх прывід не гас,
Што з уцёкам я ў змове –
Аўтаматы ўвесь час
Неслі напагатове.
Аж нарэшце ўсплыў гмах
І паверх той паднебны.
Кайданы на руках
Не былі больш патрэбны.
Дык паспешна іх тут
Канваіры зрывалі.
Для далейшых пакут
Вязня ў залу загналі.
Там, бы кроў, дываны
Ззялі бляскам чырвоным,
А навокал чыны –
Залатыя пагоны.
Помню: пульс не дрыжыць
На руцэ малакроўнай,
Бо – памерці, ці жыць –
Мне было ўжо ўсё роўна.
Так стаяў, маладзён,
Бледны я, безвалосы.
У цывільным жа ён
Уляцеў, гарбаносы.
Бы каршун, бы сава,
З барадаўкаю велькай –
Лысая галава,
Пуза пад камізэлькай.
Заскакаў з кута ў кут,
Ды ўсё рукі разводзіў,
Быццам страшных пакут
Мне ніяк не знаходзіў.
Той, пра Сталіна, меў
Верш мой у цэлафане,
Ды раз-пораз грымеў
Вось такое пытанне:
"Як ты смеў! Гавары!
Так біць "бацьку народаў"?!!
Цешыўся б, каб стварыў
Яму некалькі одаў.
Заслужыў жа – турму!
Вось табе і адплата"!
Адказаў я яму:
"Не магу славіць ката".
Зашыпеў, бы змяя,
Ён тады, ды стаў енчыць.
Мабыць, прагнуў, каб я
Стаў маліцца, ды кленчыць.
Уяўляў, мабыць, як
Будзе з хеўрай дзівіцца,
Калі, быццам чарвяк,
Каля ног пачну віцца,
Літасць каб аказаў
Ды жыцця не пазбавіў,
Каб упала сляза,
Каб цяпер хоць іх славіў.
Нат здзіўлёна глядзеў
І зноў рукі разводзіў.
І мясцечка нідзе
Зноў сабе не знаходзіў.
І прыкметна, бы раб,
Гнеў суняць свой стараўся.
Пра той верш, каб хаця б
Сталін сам не дазнаўся.
Злыдзень ведаў даўно –
Хто пра "Бацьку" са злобай
Чуў хоць слова адно –
Знішчыць кожнага "Коба".
Дык, нарэшце, як мыш,
Ды ўжо і не па-руску
Піскнуў: "Што ты маніш"?!–
Гэтак па-беларуску.
Хітра тым знак ён даў:
Мову цэніць, не бэсціць…
Пра мяне ж загадаў:
"Закаваць і адвесці"!
Па завулках пачаў
"Воран" зноў свае танцы.
Ізноў карцар чакаў
Мяне ў "Амерыканцы".
Хай даўно ўжо няма
Валадарскага тога,
З яго імем турма
Людзей душыць, ой многа!..

А пасля ў халадах
Зноў этапы, гулагі,
Дзе ў бясконцых лядах
Лёс клянуць дахадзягі.
Дошкі мулкія нар,
І крык дзікі канвоя…

Памяць сэрцы ахвяр
Болем век беспакоіць.

# Давайце спяваць па-беларуску

Зьміцер Бартосік

*Ахвярую Г.П.*

## Белы шалік

*Раманс*

AM DM
Шалік белы з чырвонаю стужкай
E AM
Ты аднойчы мне ў дар паднясла
DM
Як сымболь нашай шчырае дружбы,
AM DM
Талісман нашых будучых спраў.

A DM
Ты яго мне сама вышывала,
G C
Каб было мне напэўна цяплей
F DM
Ты сама мне яго павязала,
E AM
У дзень, калі павязалі мяне.

Не пісаў я на сьценах тых матам,
А прысьпешваў, здавалася мне,
З дапамогай вялікай цытаты
Залацісты і ясны наш дзень.

Ды мае паэтычная густы
Не ўлічыў той сухі пратакол,
Быццам я аднаго беларуса
Абзываў там, дзе мог, мудаком.

І зрабіўшы масаж мне на твары,
Шалік той ад мяне унясьлі.
Каб былі мне больш мулкімі нары
Й не павесіўся каб ад тугі.

Пацягнуліся дні без навінаў,
Хоць кідаюць газэты зрэдчас.
Ды няма сярод іх "Нашай Нівы",
Безь якой я зусім тут прыгас.

Ды аднойчы празь сьцены і краты
Атрымаў навіну пра цябе.
Быццам, мілая, круціш раман ты
З маладым афіцэрам ГБ.

У Батанічным вас бачылі садзе,
А пасьля ў "Гішпанскім кутку",
Як сядала ў ягоны "Фальксваген"
На Камсамольскай з Праспэктам рагу.

Што ж, гуляй са сваім "асабістам".
Веру, што вам ня доўга гуляць.
Дачакаюся й я асабіста
Залацістага яснага дня.

І калі ўсё акажацца праўдай,
Падарунак я твой вазьвярну,
І на шыі тваёй далікатнай,
Шалік той я як сьлед зацягну.

Рэдактар Станіслаў Суднік

Заснавальнік:
ТБМ імя Францішка Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі:
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
Адрас рэдакцыі:
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Адрас для паштовых адпраўленняў:
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
E-mail: ns@lida1.lingvo.grodno.by

Рэдакцыйная калегія:
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Лілея Сазанавец, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 26. 07. 99 г.
Наклад 3500 асобнікаў. Замова № 1892 .
Падпісны індэкс: 63865.
Кошт падпіскі: 1 мес.- 40 000 руб., 3 мес.- 120 000 руб.
Кошт у розніцу: 10 000 руб.